6 ЛІПЕНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№74 (605) КОШТ СВАБОДНЫ




## Дзіўныя вучэнні з дзіўнай мэтай

**Іван БАБІЧАЎ**

Камітэт бяспекі Сейма Літвы выказаў сваю занепакоенасць і спадзяецца, што кампетэнтныя прадстаўнікі Расійскай Федэрацыі і Беларусі дадуць тлумачэнне таму факту, што афіцыйны Вільнюс не атрымаў ніякага паведамлення і папярэджання пра ваенныя вучэнні «Захад-99», якія прайшлі на мяжы з краінамі Балтыі. Пра гэта 2 ліпеня паведаміў Беларускі інфармацыйны цэнтр у Літве.

«Узброеныя сілы Расіі і Беларусі пачалі 21 чэрвеня буйнамаштабную падрыхтоўку наступальных аперацыяў пад назвай «Захад-99». Казахскія ваенныя спецыялісты былі адзінымі запрошанымі для назірання за манеўрамі. Расійская прэса ахарактарызавала вучэнні такім чынам, быццам ішла падрыхтоўка для ўдару па Прыбалтыйскіх краінах і ўводу войскаў на іхнія тэрыторыі. Беларуская ваеннаслужачыя падрыхтаваны спецыяльна для агрэсіі супраць Літвы», — гаворыцца ў заяве камітэта бяспекі. Прадстаўнікі камітэта нагадваюць, што, згодна з Венскай канвенцыяй, удзельніцай якой з'яўляецца і Літва, паведамленні пра падобныя вучэнні павінны перадавацца ў памежныя краіны за 42 дні да пачатку іх правядзення.

## Раскол у «Белорусской газете»

**Аляксей ПІГАЛЕЎ**

Сур'ёзныя змены адбыліся ў кіраўніцтве і журналісцкім калектыве недзяржаўнага штотыднёвіка «Белорусская газета». Савет дырэктараў вызваліў ад займаемай пасады галоўнага рэдактара газеты Аляксандра Вальвачова. Пасля гэтага пра свой выхад з калектыву заявілі намеснік галоўнага рэдактара Аляксандр Міхальчук і адзін з вядучых беларускіх журналістаў Раман Якаўлеўскі. Вальвачоў і Міхальчук з'яўляліся заснавальнікамі «БГ», газеты з 15-тысячным тыражом, якая ўтварылася некалькі гадоў таму ў выніку расколу ў калектыве «Белорусской деловой газеты». Па папярэдняй інфармацыі, пра свой сыход з газеты заявіла таксама частка журналісцкага калектыву. У планах былога кіраўніцтва «БГ» — адкрыццё он-лайнавай штодзённай газеты.

Як стала вядома НАВІНАМ, тыя, хто пайшоў з «БГ», зараз рыхтуюць зварот да чытачоў. Яго тэкст, а таксама каментары ўдзельнікаў канфлікту мы плануем апублікаваць у бліжэйшых нумарах.

**ПРАБАЧЭННЕ**

На мінулым тыдні газета НАВІНЫ надрукавала матэрыял «Трагедыя на Нямізе», змест якога складаюць сведчанні журналістаў пра стасункі з міліцыяй каля станцыі метро «Няміга» ў першыя гадзіны пасля трагедыі. Матэрыял быў падрыхтаваны праваабарончым цэнтрам «Вясна-96», але з-за вялікага аб'ёму друкаваўся ў скарачэнні.

Па віне рэдакцыі імя аўтара матэрыяла **Тацяны РЭВЯКА** ў публікацыі не было пазначанае. Рэдакцыя газеты НАВІНЫ прыносіць аўтару свае шчырыя прабачэнні.

# Помста вадзіцелям

## З фурамі на польска-беларускай мяжы абышліся, як айсберг з «Тытанікам»

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**У ноч на 2 ліпеня пад Брэстам больш за 50 аўтафургонаў пацярпелі ад дзеянняў невядомых. Раніцай вадзіцелі вялікагрузных аўтамабіляў з жахам убачылі, што тэнты іх фургонаў нехта парэзаў. Толькі з некаторых машын зніклі нешматлікія рэчы — каністры, запасныя колы. Гэта наводзіць на думку, што вадзіцелям элементарна адпомсцілі. За што?**


Фота IREX/ProMedia

Гаворка ідзе пра тых самых дальнабойшчыкаў, якія напрыканцы чэрвеня перагароджвалі шашу Брэст—Мінск, пратэстуючы супраць чэргаў на мяжы. (Нагадаем, чарга на КПП «Казловічы» дасягала 10 кіламетраў.) Шафёры патрабавалі ад брэсцкіх уладаў арганізаваць харчаванне, забяспечыць захаванне санітарных нормаў, а галоўнае — парадку на КПП. Вадзіцелі мяркуюць, што брэсцкія мытнікі зацікаўленыя ў існаванні чаргі, бо за хабар альбо паслугі прапускаюць некага раней. Асаблівымі прывілеямі ў іх карыстаюцца вадзіцелі з Брэста. Выгада ўзаемная. Пакуль астатнія стаяць у чарзе, брэстчанін паспявае зрабіць у тую ж Нямеччыну два рэйсы. А гэта ўжо грошы, якімі трэба дзяліцца.

Калі пасля акцыі пратэсту вадзіцеляў міліцыя пачала сачыць за парадкам у чарзе, брэсцкія вадзіцелі свае прывілеі страцілі. За што, магчыма, і адпомсцілі калегам, парэзаўшы тэнты іх фургонаў. Гэта адна з версіяў, у якіх зараз разбіраюцца следчыя. Па другой версіі, пашкоджаныя тэнты — справа рук добразычліўцаў тых фірмаў, якія рамантуюць фургоны. У Брэсце такіх кантор развялося шмат. За рамонт аднаго тэнта яны бяруць не менш за 20 нямецкіх марак, але ўсім працы не хапае. Зараз на некаторы час заказы на рамонт павялічыліся. Ці не штучна, разбіраецца міліцыя.

І нарэшце, застаецца яшчэ адна версія — палітычная. Акцыя вадзіцеляў моцна ўдарыла па прэстыжы брэсцкіх уладаў, бо прадэманстравала на ўвесь свет, што яны не ў стане вырашыць простую праблему. Вось і атрымліваецца, што нейкі «айсберг» па наводцы брэсцкіх начальнікаў таксама мог адпомсціць упартым вадзіцелям. ■

## Страйк па-італьянску

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН**

Кіраўніцтва Свабоднага прафсаюза Магілёўскага завода «Зеніт» падрыхтавала зварот у суд аб парушэнні адміністрацыяй прадпрыемства шматлікіх пунктаў калектыўнай дамовы. Гэта першыя наступствы гэтак званага «італьянскага страйку», які працягваецца ў цэхах завода «Зеніт» вось ужо другі месяц: рабочыя знаходзяцца на сваіх працоўных месцах, але альбо не працуюць, альбо, працуючы, выпрабляюць прадукцыю ў значна меншых аб'ёмах ад запланаванага.

Як адзначаецца ў заявах Свабоднага прафсаюза, у прыватнасці, не робіцца індэксацыя за затрыманую зарплату, нясвоечасова выплачваюць адпускныя, а галоўнае, рабочых-здзельшчыкаў не задавальняе змяненне аплаты працы, якая ў выніку зніжэння здзельных нормаў упала да ўзроўню, значна ніжэйшага за сярэднюю заробатную плату па заводзе. У адрас генеральнага дырэктара Васіля Асіпенкі на пачатку чэрвеня была накіраваная заява, падпісаная 150 рабочымі, у якой указвалася на парушэнне калектыўнай дамовы. Аднак адміністрацыя ніяк не адрэагавала на яе.

Па словах кіраўніка Свабоднага прафсаюза прадпрыемства Аляксандра Каралёва, у выніку гэтай акцыі план у чэрвені на прадпрыемстве не быў выкананы амаль на 50 працэнтаў. Рабочыя свядома пайшлі на значнае зніжэнне свайго заробку і працягваюць акцыю ў ліпені. Па словах прафсаюзнага актывіста, прадпрыемства, якое выпускае розныя электратэхнічныя і радыёпрыборы, перажывае значныя цяжкасці.

На складах з-за адсутнасці збыту сабраўся трохмесячны запас прадукцыі. На іншых прадпрыемствах Магілёва таксама склалася напружаная сітуацыя са збытам і, адпаведна, — выплатай зарплат.

Нядаўна адбылася акцыя пратэсту ў асобных цэхах Магілёўскага аўтамабільнага завода, дзе рабочыя дамагліся выканання сваіх патрабаванняў, узрастае напружанасць на ліфтабудаўнічым заводзе і некаторых іншых прадпрыемствах горада. ■

## Банкі прыпыняюць аперацыі

**Сяргей БАЛЫКІН**

Шэраг беларускіх камерцыйных банкаў разаслаў грамадскім арганізацыям папярэджанні аб неабходнасці прадстаўлення дакументаў, што пацвярджалі б іх перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі. У адваротным выпадку, папярэджваюць банкі, аперацыі па рахунках гэтых арганізацыяў будуць прыпыненыя.

Сваё патрабаванне банкі абгрунтоўваюць палажэннямі прэзідэнцкага дэкрэта, у адпаведнасці з якім усе грамадскія арганізацыі павінны былі прайсці перарэгістрацыю. Арганізацыі, якія не выканалі гэтае патрабаванне, будуць ліквідаваныя, а іх дзейнасць — забароненая. Спісы тых, што не прайшлі перарэгістрацыю, у адпаведнасці з дэкрэтам, будзе апублікаваны ва ўрадавай газеце «Рэспубліка» не пазней чым 15 ліпеня гэтага года.

**ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ**

## Бізнесмена Клімава будуць судзіць «ленінцы»

Справа дэпутата ВС Андрэя Клімава перададзеная ў Ленінскі суд Мінска. Гэта пацвердзілі ў канцылярыі суда, аднак прозвішча суддзі і дату пачатку працэсу не паведамілі. Лёс справы Клімава яшчэ вырашае старшыня Ленінскага раённага суда Любоў Жалнерчык. Нагадаем, Клімаў утрымліваецца пад вартай ужо амаль паўтара года. Дэпутата абвінавачваюць у шэрагу эканамічных злачынстваў, але ён вінаватым сябе не прызнае і заяўляе, што яго пераследуюць за крытыку прэзідэнта А.Лукашэнкі. Адпачатку Клімаў адмаўляецца ад удзелу ў следчых дзеяннях, пратэстуючы супраць парушэння ягонай дэпутацкай недатыкальнасці.

*Алесь ПАЎЛОВІЧ*

## Галоўная праблема — цэны

Сярод праблемаў, якія найбольш востра стаяць зараз перад рэспублікай і яе грамадзянамі, больш за палову жыхароў краіны — 72 працэнты — адзначылі рост цэнаў. 47 працэнтаў апытаных звярнулі ўвагу на збядненне насельніцтва. Больш за трэць (38 працэнтаў) указалі на спад вытворчасці, а кожны пяты — на беспрацоўе (21 працэнт), адсутнасць парадку, законнасці (20 працэнтаў) і злачыннасць (20 працэнтаў). Па 18 працэнтаў рэспандэнтаў адзначылі наступствы чарнобыльскай катастрофы і карупцыю. 11 працэнтаў звярнулі ўвагу на парушэнне правоў чалавека ў Беларусі. Толькі 8 працэнтаў апытаных занепакоеныя пагрозай з боку Захаду і 3 працэнты — праблемай аказання дапамогі Югаславіі.

*Леанід ІГНАЦЬЕЎ*

наша свабода

**НАДВОР'Е**




**7 ліпеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер заходні і паўднёва-заходні, 3—7 м/с. Тэмпература паветра ўначы +13—+18.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**440 000**




## Баявое служэнне

Не надта даўно расійскае тэлебачанне паказвала цырымонію ўручэння ўзнагародаў «за баявое служэнне» прадстаўнікам духавенства, якія выкладаюць у ваенных навучальных установах ці вядуць пастырскую працу ў вайсковых частках. Так бы мовіць, богу давалася кесарава. Аднак ніхто са святароў не адмовіўся прычапіць ордэн побач з крыжам. У інтэрв'ю тэлебачанню ўзнагароджаны іераманах правёў паралель паміж царквой і войскам: «У арміі — галоўнакамандуючы, у нас — патрыярх. У арміі — статут, у нас — статут. У вайскоўцаў — форма, у нас — уніформа. У арміі — дысцыпліна, у нас — дысцыпліна».

Сапраўды, падабенства хапае, невыпадкова існавалі духоўна-вайсковыя ордэны. Калі працягваць параўнанні, дык епархіі можна параўнаць з арміямі, а экзархаты – з франтамі: прыкладам, Украінскі праваслаўны фронт, Беларускі праваслаўны фронт, Эстонскі праваслаўны фронт і г. д. Можа, ужо прыспеў час замяніць на салдацкіх спражках атэістычную зорку на дэвіз «З намі бог»? Руская царква і расійская дзяржава відавочна сціраюць мяжу, якая іх падзяляла. Гэта не мела б цікавасці, калі б Беларусь не шлюбавалася з Расіяй. Бо маскоўскі патрыярх камандуе і «Беларускім фронтам» у змаганні за душы для рускай дзяржавы.

Свежы прыклад: беларускае тэлебачанне рэкламуе кнігу «Закон Божій», якая «апошні раз выдавалася 70 гадоў назад» у Расіі. Рэклама пачынаецца сцверджаннем: «Знявечаныя атэізмам, мы...» Хто гэтыя «знявечаныя мы», зразумела, не ўдакладняецца. На думку рэкламных творцаў, відаць, знявечана ўсё беларускае насельніцтва.

У гэтым рэкламным роліку найбольш уражвае парушэнне Канстытуцыі РБ, у прыватнасці, забароны прапагандаваць варожасць па перакананнях. Наша тэлевізія дапамае царкве калечыць свядомасць здабыткамі сярэдневяковай думкі. Аднак дарэмна царква абражае «бальшавіцкіх атэістаў». Дзякуючы ім стварылася прастора, на якой паменшала канкурэнтаў праваслаўю – сектаў, адэптаў кальвінізму і лютэранства, розных ерэтычных плыняў у самой рускай царкве. Гэта вельмі спрошчвае задачу па праваславізацыі «знявечаных» беларусаў, якую зараз праводзіць экзархат з дапамогай беларускіх дзяржаўных органаў і ўстановаў. «Брацтва па веры» — праверaная тэза «баявога служэння» пятай калоны, якая дапаможа палітычна закінуць Беларусь у кацёл Расійскай Федэрацыі.

# Шчырасць для даверлівых

**Марат ГАРАВЫ**

Прадстаўнікі беларускай апазіцыі не вераць у шчырасць намераў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі змяніць знешнепалітычны курс краіны і распачаць дыялог з апазіцыйнымі сіламі. Нагадаем, што пра гэта А.Лукашэнка заявіў, выступаючы на ўрачыстым сходзе з нагоды вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. «Цяжка паверыць у шчырасць Аляксандра Лукашэнкі, які завёў краіну ў тупік і робіць выгляд, што зразумеў гэта». Так пракаментаваў заявы прэзідэнта старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Станіслаў Шушкевіч. На думку ж старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны Алега Трусава, выказванні А.Лукашэнкі сведчаць аб тым, што прэзідэнт «рыхтуе запасны варыянт магчымых дзеянняў у выпадку правалу яго планаў аб'яднання з Расіяй». А.Трусаў лічыць, што варыянт адыходу ад ранейшага знешнепалітычнага курсу быў распрацаваны даўно і існуе пэўны шанц яго рэалізацыі. «Аднак Захад прымае да ведама не словы, а справы, таму без справаў усе словы А.Лукашэнкі будуць успрымацца толькі як пустыя абяцанні», — сказаў А.Трусаў. Закрануўшы прапановы А.Лукашэнкі аб дыялогу з апазіцыяй, ён заўважыў, што прэзідэнту неабходна садзіцца за стол перамоваў не пазней за 20 ліпеня. Пры гэтым, на думку А.Трусава, перамовы з апазіцыяй найбольш аптымальна праводзіць у Шклове, у гістарычным будынку нядаўна аднаўленай гарадской ратушы. «Са Шклова ўсе самазванцы хадзілі на Маскву, вось і А.Лукашэнка вярнуўся дадому пасля «паходу на Крэмль», а зараз штосьці і ў Беларусі рабіць трэба», — сказаў Алег Трусаў. ■

# Большасць не верыць у афіцыйную версію арышту Міхаіла Чыгіра

**Уладзімір ГЛОД**

**Ад былога прэм'ера і кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Міхаіла Чыгіра, які знаходзіцца ў следчым ізалятары, следчыя органы патрабуюць пісьмовага тлумачэння аб тым, як ён збіраецца супрацоўнічаць са следчай групай, што вядзе яго справу. Пра гэта паведаміла жонка і адвакат М.Чыгіра Юлія Чыгір.**

На думку Ю.Чыгір, такое патрабаванне ўзнікла пасля таго, як у мас-медыя прайшла інфармацыя, што следчыя органы з 12 красавіка практычна не займаюцца справай яе мужа. Калі б М.Чыгір напісаў, што ён адмаўляецца даваць паказанні, то афіцыйныя ўлады маглі б потым скарыстаць гэты дакумент як сродак ціску на экс-прэм'ера, лічыць Юлія Чыгір.



Апрача таго, Ю.Чыгір сцвярджае, што яе муж быў арыштаваны на падставе «павярхоўнай» даведкі праверкі дзейнасці «Белаграпрамбанка», падпісанай 1 сакавіка гэтага года. У банку была праведзеная яшчэ адна праверка, падчас якой дэталёва вывучалася дзейнасць М.Чыгіра ў гэтай установе ў 1991—1994 гадах. Як адвакат яго жонка атрымала магчымасць пазнаёміцца з вынікамі другой праверкі. На яе думку, новы дакумент адназначна пераконвае, што «ў майго мужа ёсць добрыя шанцы на тое, каб засведчыць сваю невінаватасць у выдзяленні крэдыту канадскай фірме ў памеры 1 мільёна долараў». Менавіта таму, лічыць Ю.Чыгір, следчыя органы зараз пераарыентаваліся і ўзяліся за праверку дзейнасці М.Чыгіра на пасадзе прэм'ер-міністра. «Хутчэй за ўсё, майму мужу хочуць паставіць у віну перавышэнне службовых паўнамоцтваў», — лічыць жонка экс-прэм'ера.

Тым часам, па словах Юліі Чыгір, ужо дзесяткі тысяч подпісаў сабраныя пад петыцыяй з патрабаваннем вызвалення з-пад варты былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра.

Праведзеныя ў сталіцы Беларусі пікеты ў падтрымку Міхаіла Чыгіра, сказала Юлія Чыгір, сведчаць, што большасць мінчукоў не верыць у афіцыйную версію арышту яе мужа. Многія лічаць, што экс-прэм'ер пацярпеў за сваю палітычную дзейнасць. З другога боку аказалася, што значная частка мінчукоў наогул не ведае пра арышт М.Чыгіра. ■

# Магілёўскія кадры — у Гродна

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**Чаго так доўга пабойваліся ў Гродне — адбылося. Насыціўшы дзяржаўныя структуры ў сталіцы сваімі шклоўска-магілёўскімі кадрамі, Лукашэнка заслаў аднаго з іх нарэшце і ў Гродна. Як сціпла паведамілі газеты, «кіраўнік дзяржавы даў згоду на прызначэнне Саўчанкі Уладзіміра Ягоравіча першым намеснікам старшыні Гродзенскага аблвыканкама». Хоць такой згоды ў яго ніхто і не прасіў, хіба што сам Саўчанка. Хоць у гэта цяжка паверыць, паколькі ў Магілёве ён кіраваў «чарнобыльскім сектарам», а ў Гродне зоймецца сельскай гаспадаркай, чаго вымагае пасада першага намесніка старшыні выканкама.**

Не прасіў і старшыня аблвыканкама А.Дубко, для якога новае прызначэнне таксама стала неспадзеўкай. На гэтай пасадзе да апошняга дня працаваў М.Логвін, якога ніхто не збіраўся звальняць. Вобласць па сельскагаспадарчых паказчыках самая лепшая ў краіне. Але лепшых, як атрымліваецца, звальняюць, а горшых часам бяруць нават ва ўрад, бо яны—«свае», магілёўскія. Дарэчы, М.Логвіну засталося да пенсіі ўсяго паўгода. Проста ўзяць яго ды выгнаць толькі таму, што прэзідэнту захацелася мець у Гродне земляка, было б зусім не па-людску. Таму начальства ў апошні момант вырашыла прышукаць яму якую-небудзь працу ў дзяржаўных структурах, але ўжо не звязаную, па маіх звестках, з сельскай гаспадаркай.

Прадстаўленне У.Саўчанкі адбылося ў гэты чацвер. Да самай апошняй гадзіны (о, дзіва!) амаль ніхто ў аблвыканкаме пра яго нічога не ведаў, апроч таго, што ў Магілёве ён працаваў намеснікам старшыні аблвыканкама. Самыя дасведчаныя маглі яшчэ дадаць, што ён нарадзіўся ў 1952 годзе і што на Магілёўшчыне займаўся комплексам пасьлячарнобыльскіх праблемаў. Само сабой узнікае пытанне: што можа палепшыць на Гродзеншчыне чалавек, які прыехаў з адной з самых горшых у сельскагаспадарчых адносінах вобласці — у самую лепшую? Адказу няма. Дакладней, адказ знаходзіцца, хутчэй за ўсё, у іншым. Сельская гаспадарка не мае аніякага значэння. Галоўнае, што чалавек Лукашэнкі будзе першым намеснікам А.Дубко і ў любы момант зможа яго замяніць.

А такі момант можа наступіць нават вельмі хутка. Дубко цяпер бярэ адпачынак. Якраз напярэдадні заканчэння канстытуцыйных паўнамоцтваў Лукашэнкі. Ці мала што здарыцца? Для Лукашэнкі лепей мець на ўсякі выпадак свайго чалавека ў самым свабодалюбівым рэгіёне краіны. Тым больш Дубко, па некаторых звестках, сам ужо прасіўся ў адстаўку (ён мае пенсійны ўзрост). Праўда, Лукашэнка нібыта сказаў яму: можаш працаваць спакойна, пакуль я буду, да 2001 года. Аднак людзі, якія някепска ведаюць Дубко, лічаць, што ён сёння выдатна разумее згубнасць палітыкі, якую праводзіць прэзідэнт, а таксама тое, што адказваць за яе давядзецца ім разам. ■

## ЦЫТАТА НУМАРА

**У россиян, особенно у руководства... появляется какое-то впечатление о том, что мы сегодня слезли в Беларуси с деревьев, там сгрызли всю кору на верхушках, листву поели, сегодня питаемся непонятно чем, и мы рвемся — только бы объединиться с Россией.**

*Александр ЛУКАШЕНКО,*
*из выступления на XII сессии Парламентского собрания Беларуси и России, 2 июля 1999 г.*

# АБСЕ працягне кансультацыі

**БелаПАН**

Спецыяльная рабочая група па Беларусі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ на чале з Адрыянам Севярынам наведае Мінск у сярэдзіне ліпеня, каб прадоўжыць кансультацыі з прадстаўнікамі беларускай грамадскасці, распачатыя ў Бухарэсце. Як паведаміў намеснік кіраўніка кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Ханспетэр Кляйнер, на кансультацыях будуць абмяркоўвацца пытанні правядзення парламенцкіх выбараў у Беларусі ў 2000 годзе. Са словаў спадара Кляйнера, на кансультацыі ў Мінску атрыманая згода беларускага ўрада, да іх запрошаныя прадстаўнікі кіраўніцтва краіны.

Варта нагадаць, што прадстаўнікоў беларускіх уладаў, у тым ліку віцэ-спікера ніжняй палаты Нацыянальнага сходу Уладзіміра Канаплёва і старшыню Канстытуцыйнага Суда Рыгора Васілевіча, запрашалі і на кансультацыі 11—13 чэрвеня ў Бухарэст, аднак ніводзін з іх туды не паехаў. Тым не менш, выступаючы на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 55-й гадавіне вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Аляксандр Лукашэнка звярнуўся да апазіцыі з заклікам пачаць дыялог з уладамі аб тым, як будаваць у краіне адкрытае грамадства. «Сёння я афіцыйна заяўляю — улада гатовая да дыялогу аб далейшым руху краіны па шляху дэмакратыі», — заявіў ён. Па словах кіраўніка дзяржавы, «права ўдзельнічаць у гэтым дыялогу маюць усе грамадскія сілы, а не толькі экстрэмісты з апазіцыі». «Мы павінны дасягнуць шырокай грамадскай згоды аб тым, як сумленна і справядліва правесці выбары 2000—2001 гадоў», — падкрэсліў прэзідэнт. Аляксандр Лукашэнка заклікаў лідэраў апазіцыйных сілаў спыніць «абіваць парогі замежных дзяржаваў і ліць бруд на краіну». «Калі вы сапраўды думаеце пра беларускі народ, то не трэба заклікаць да абмежаванняў на кантакты з нашай краінай, ладзіць іншыя авантуры, — звярнуўся прэзідэнт да апазіцыі. — Замежны дзядзька вам уладу на спадачку не паднясе. Уладу трэба атрымаць з рук свайго народа, у сваёй дзяржаве. Калі вы так жадаеце ўлады, то парламенцкія выбары 2000-га і прэзідэнцкія 2001 года — вось поле сумленнай і дэмакратычнай барацьбы. Я да яе гатовы». ■

# Ізноў гучыць беларускае пытанне

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

Сёння ў Санкт-Пецярбургу адкрываецца штогадовая сесія Парламенцкай асамблеі АБСЕ. У яе рабоце прыме ўдзел дэлегацыя Вярхоўнага Савета 13-га скліканння, у склад якой уваходзяць дэпутаты Анатоль Лябедзька і Уладзімір Нісцюк. На гэтай сесіі выступіць дзеючы старшыня АБСЕ, міністр замежных справаў Нарвегіі Кнут Валебек, а таксама старшыня Парламенцкай асамблеі гэтай арганізацыі Хелле Дайн. Прадстаўнікі Вярхоўнага Савета спадзяюцца, што на сесіі будзе абмеркаваная сітуацыя ў Беларусі. У Пецярбург збіраюцца прыехаць прадстаўнікі іншых уплывовых міжнародных структураў — Савета Еўропы, Еўрапарламента і Парламенцкай асамблеі NATO — з якімі плануе сустрэцца беларуская парламенцкая дэлегацыя.

Паедуць у Санкт-Пецярбург і два дэпутаты лукашэнкаўскага Нацыянальнага сходу — Аляксандр Козыр і Мікалай Бялоў, якія плануюць трапіць на сесію Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў складзе дэлегацыі міжпарламенцкай асамблеі СНД. Нагадаем, што пасля апошняга рэферэндуму Нацыянальны сход не прызналі ўплывовыя еўрапейскія структуры, сярод якіх і ПА АБСЕ. ■

# На «заканчэнне тэрміну» — народныя гулянні

**Юрый ПАЦЁМКІН**

Аб'яднаная грамадзянская партыя выступіла з ініцыятывай правесці 20 ліпеня па ўсёй краіне масавую акцыю, прымеркаваную да «радаснай падзеі» — заканчэння тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі паводле Канстытуцыі 1994 года.

Народныя гулянні з выпадку «адыходу А.Лукашэнкі на заслужаны адпачынак» павінны прайсці ва ўсіх населеных пунктах краіны з 18.00 да 20.00. АГП звярнулася да палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў і грамадзянаў Беларусі з заклікам падтрымаць гэтую ініцыятыву і ўзяць удзел у арганізацыі святочных урачыстасцяў. ■

# У сацдэмаў новы штаб

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Днямі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), старшынёй якой з'яўляецца Мікалай Статкевіч, змяніла «прапіску». Новая штаб-кватэра БСДП (НГ) знаходзіцца цяпер па адрасе: праспект імя Ф.Скарыны, 153. Змянілі сацыялісты і свой ранейшы тэлефон. ■

# Крыўда прэзідэнта

Віка ТУРАВА

**Упартае «нежаданне» расіянаў заключаць беларусаў у брацкія абдымкі ў рэшце рэшт «дастала» Аляксандра Лукашэнку. Пра набалелае ён выказаўся, калі выступаў перад дэпутатамі Парламенцкага сходу Саюза.**

Больш за ўсё беларускага прэзідэнта закранула тое, што ягоная прапанова аб адзіным прэзідэнце Саюза так і не знайшла падтрымкі ў расійскай палітычнай эліты. Нягледзячы на ўсе выказванні палітолагаў аб перавагах пераходу Барыса Ельцына не напрамую ў палітычнае небыццё, а спачатку на ганаровую саюзную сінекуру, у праекце Дагавора аб стварэнні саюзнай дзяржавы ўсё ж такі не было пасады адзінага кіраўніка. А.Лукашэнка патлумачыў парламентарыям, што без прэзідэнта Саюза няма сэнсу ў самім саюзе, але гэта быў ужо крык адзінокага ў пустыні.

І тады Лукашэнка на расіянаў пакрыўдзіўся ўвогуле. Гэта значыць, да такой ступені, што паабяцаў пераарыентавацца на Захад. Так і заявіў, маўляў, усходні вектар беларускай знешняй палітыкі быў памылкай, міністру на від ужо пастаўлена, заўтра пачынаем наладжваць адносіны з усімі, каго яшчэ ўчора называлі апошнімі словамі. Да таго ж, вельмі дарэчы ў рэспубліку на тыдзень прыязджае амбасадар ЗША. Засталося толькі выселіць з Драздоў расійскага дыпламата для паўнаты карціны. І можна аб'ядноўвацца з Вашынгтонам.

У гэты ж вечар, падчас выступлення перад ветэранамі на ўрачыстасцях з нагоды 55-й гадавіны вызвалення Мінска ад гітлераўцаў, А.Лукашэнка ні разу не сказаў дрэнна пра Захад. Упершыню за апошнія 5 гадоў. Зыходзячы з гэтага можна меркаваць, што беларускі прэзідэнт настроены рашуча. Ен папулярна патлумачыў расіянам, што беларусы «не ўчора з дрэва злезлі» і што ў Саюз хочуць не таму, што «на сваім дрэве ўсю кару з'елі». У калі адносіны да беларускіх ініцыятываў не зменяцца, ён не будзе яшчэ пяць гадоў трымаць краіну ў падвешаным стане.

Дэпутат Парламенцкага сходу, вядомы маскоўскі ЛДПРавец Аляксей Мітрафанаў лічыць, што беларускі прэзідэнт блефуе. І ён з разуменнем паставіўся да гэтага блефа. Беларусь, на думку расіянаў, нікуды не падзенецца.

Дэпутаты ўхвалілі ў цэлым прадстаўлены ім праект, выказаліся за тое, каб правесці выбары ў заканадаўчы орган Саюза адначасова з выбарамі ў Дзярждуму, і раз'ехаліся на канікулы. Нічога іншага яны зрабіць і не маглі. Ні расійскі, ні тым больш беларускі парламент не вырашаюць прынцыповых пытанняў — палітычная кухня абедзвюх дзяржаваў размяшчаецца ў іншых будынках. Таму дэпутаты паспачувалі А.Лукашэнку, але дапамагчы яму яны відавочна не змогуць. Парламентарыі выступілі ў падтрымку беларускага прэзідэнта, але іх меркаванне мала што значыць. Таму яны нават не спалохаліся прэзідэнцкіх пагрозаў. Больш за ўсіх усхваляваліся журналісты, калі А.Лукашэнка заявіў, што гэтае ягонае выступленне не проста эпахальнае, але і апошняе. У сэнсе, на інтэграцыйную тэматыку. Ён больш не будзе выстаўляць ніякіх ініцыятываў у гэтай сферы.

Але надзея памірае апошняй. І беларускія апаратчыкі сур'ёзна разважаюць пра тое, што пасаду кіраўніка саюзнай дзяржавы можна будзе «працягнуць» пасля таго, як будзе падпісаны абмеркаваны дэпутатамі праект Дагавора і створаны Вышэйшы дзяржаўны савет. Міхаіл Сазонаў, які курыруе ў адміністрацыі прэзідэнта інтэграцыйную праблематыку, лічыць, што падзеі будуць развівацца па гэтым сцэнарыі. Ён упэўнены, што без канстытуцыйных рэформаў справа не абыдзецца. І рана ці позна расіяне пойдуць на правядзенне рэферэндуму і ўнясенне зменаў.

Беларусь у любы дзень гатовая правесці рэферэндум па пытанні аб стварэнні адзінай дзяржавы. Людміла Ярмошына, што старшынствуе ў прызначанай прэзідэнтам Цэнтральнай камісіі па выбарах і рэферэндумах, ужо адрапартавала, што для гэтых мэтаў у рэспубліцы ёсць усё, акрамя фінансаў. Створана неабходная, на яе погляд, заканадаўчая база і нават ёсць запасы паперы, якія засталіся ад апошніх мясцовых выбараў.

Ёсць усё, акрамя жадання расійскіх палітыкаў заканчваць гэтыя інтэграцыйныя гульні. ■


Фота IREX/ProMedia

# Нялюбыя пасынкі

## Хворыя дзеці з чарнобыльскай зоны не могуць скарыстацца дзяржаўнымі льготамі – на ўсіх не хапае грошай.

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Чарнобыль пакінуў на беларускай зямлі глыбокую і незагойную рану. Радыяцыя ўжо загубіла тысячы жыццяў і працягвае забіваць людзей аднаго за адным.**

Самы балючы удар Чарнобыль нанёс па дзецях. На сённяшні дзень толькі паводле афіцыйнай статыстыкі з 2,2 мільёнаў пацярпелых ад катастрофы паўмільёна – дзеці.

Беларуская дзяржава, шчыра кажучы, няшмат робіць дзеля дапамогі сваім грамадзянам – ахвярам Чарнобыля. Праўда, прыняты закон «Аб сацыяльнай абароне грамадзянаў, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», аднак ён сістэматычна не выконваецца – няма сродкаў. Гэта прызнаюць і самі чыноўнікі з дзяржаўнага камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (Дзяржкамчарнобыля).

У прыватнасці, закон прадугледжвае права для 516 тысяч «чарнобыльцаў» на штогадовае бясплатнае санаторна-курортнае лячэнне і аздараўленне. З тых 516 тысяч 437 тысяч – дзеці. Але каб аздаравіць усіх, грошай не хапае. У сярэднім за год крыху больш за палову дзяцей і падлеткаў могуць недзе адпачыць і падлячыцца за дзяржаўны кошт. Сёлета сітуацыя не зменіцца – дзяржава выдзеліла на адпачынак дзецям-«чарнобыльцам» 7,4 трыльёна рублёў, гэта зноў-такі палова ад патрабуемай сумы.

Працэс паляпшэння здароўя дзяцей з забруджаных радыяцыяй раёнаў ідзе на працягу ўсяго года. Для гэтых мэтаў у краіне працуе 125 здраўніцаў. У санаторыі краінаў СНД трапляе менш за 10% дзяцей – з-за цяжкасцяў з канвертацыяй валюты абсалютная большасць маленькіх «чарнобыльцаў» лечыцца ў Беларусі. Больш за тое – з-за высокіх выдаткаў на транспарт іх часцей за ўсё накіроўваюць на адпачынак як мага бліжэй ад месцаў сталага пражывання. Праўда, з самых «брудных» абласцей – Гомельскай і Магілёўскай – дзяцей усё ж вывозяць.


Фота IREX/ProMedia

Звычайны тэрмін лячэння-аздараўлення складае 24 дні, пасля чаго маленькія пацыенты часцей за ўсё вяртаюцца дадому, дзе працягваюць набіраць свае мілі- і проста рэнтгены. Наступны раз яны выязджаюць толькі праз год. За тым, каб адны і тыя ж дзеці не ездзілі на лячэнне кожны год, сочаць школы, дзе яны вучацца. Чарга – вышэй за ўсё.

Цікава: па словах чыноўнікаў, адказных за дзіцячы адпачынак, ніхто не займаецца фундаментальнымі даследаваннямі і падлікамі, наколькі эфектыўная такая «вахтавая» сістэма аздараўлення «чарнобыльцаў». Тым не менш – лепш хаця б такі клопат пра дзіцячае здароўе, чым ніякі. ■

# Салідарнасць у дзеянні

Алег БЯБЕНІН

Буйнейшая польская «Газета Выборча» аб'явіла 1 ліпеня аб сумеснай акцыі гэтага выдання, польскага фонду SOS, прэзідэнтам якога з'яўляецца вядомы грамадскі дзеяч, ветэран «Салідарнасці» Яцак Куронь, і Хартыі'97. Удзельнікі праекта сумесна арганізуюць летні адпачынак у Польшчы для дзяцей беларускіх палітвязняленых. Папярэдне вядома, што дзеці прыедуць 1 жніўня ў Варшаву, дзе правядуць два дні. Там іх чакаюць экскурсіі ў «Газету Выборчу» і фонд SOS, а таксама разнастайныя забавы. 3-га жніўня дзеці паедуць у адзін з лепшых польскіх санаторыяў, дзе будуць адпачываць да 15 жніўня.

Месяц таму, 4 чэрвеня, аргкамітэт Хартыі звярнуўся да грамадзянаў і арганізацыяў Польшчы. «Нашая краіна перажывае цяжкія часы. Як і ў вас калісьці, сотні людзей падвяргаюцца рэпрэсіям з боку кіруючага рэжыму Лукашэнкі. Супрацоўнікаў рэжыму збіваюць, штрафуюць, саджаюць у турмы, звальняюць з работы, — гаварылася ў звароце. — Мы звяртаемся да вас з просьбай аказаць дапамогу ў правядзенні летняга адпачынку для дзяцей тых палітзняволеных, што доўгі час знаходзяцца ці знаходзіліся ў турме. Гэта неабходна дзецям, каб зняць неверагодная напружанне і стрэсы, што яны адчуваюць на радзіме». Да звароту дадаваліся фота і спіс дзяцей палітзняволеных, якія таксама апублікавала «Газета Выборча». Сярод іх — дзеці дэпутатаў Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава, членаў Беларускага Народнага Фронту Уладзіміра Лыска, Рыгора Кійко, Алеся Бондарава, Анатоля Сарокіна, браты маладафронтаўцаў Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага.

ДЫЯГНАЗ

# Ребусня


Александр ПОТУПА

Очень болит шея. Теперь понятно почему — оказывается, страна целых пять лет находилась в подвешенном состоянии. После чего намерена повернуться лицом к Западу и, выходит, чем-то совсем иным к Востоку. Что, вообще-то, опасно, ибо кремлевская ориентация — большая загадка. И дело может не ограничиться братскими (сестринскими?) отношениями. Но все равно неплохо. Для надолго подвешенной особи, способной еще вертеться — к кому передом, а к кому и наоборот, — это просто здорово.

Такой превосходный ребус был выдан в ходе знаменитого президентского спича перед объединенными российско-белорусскими парламентариями. Мы даже не представляем, насколько в нем все верно, особенно избранный президентом экономический курс, который абсолютно правилен, несмотря на то, что совершенно ошибочен в смысле ориентации. Вот только где найти россиянина, который бы выдал блестящее опровергнутый президентом тезис насчет того, что белорусы только что спустились с деревьев, объев кору и листья. Это уж слишком! Кора, листья и трава — наше светлое северокорейское будущее. Не надо лишать нас будущего, беспардонно запихивая его в прошлое. И по поводу того, что уже слезли — не очевидно. Надо бы уточнить, кто именно слез и зачем... Сидел бы себе, потому как все равно сидеть будет.

Страна действительно висит. С 1 июля все юридические лица должны были привести свои документы в соответствие с якобы полностью вступившим в силу Гражданским кодексом — фактически пройти перерегистрацию. Каковая для субъектов хозяйствования даже не открыта. Кстати, чем смогут в ближайшие время торговать индивидуальные предприниматели в условиях жесткой сертификации — большой вопрос. Водкой нельзя, сигаретами нельзя, а косметика известно какого происхождения. Куда деваться?

Как и предсказывалось ранее, в результате перерегистрации обрушилась раз в 8 (на дату официального завершения — 1 июля) система общественных организаций. Самое забавное — растворяются в нынешней летней жаре и некоторые заботливо выпестованные вертикалью *президентофилы*. Как фанера над Парижем, то есть над минюстом, пролетело любимое детище минпрединвеста и его юного шефа — Национальная ассоциация промышленников и предпринимателей, не сумевшая наскрести по республике 50 энтузиастов. И, кажется, в тот же последний полет отправляется другое свежерожденное и оттого еще более любимое дитя — Белорусская конфедерация предпринимателей. Память о них будет вечно жить в белорусской ребусологии.

В общем, вымирают белорусские юридические и физические лица. И как выжить в этом взорвавшемся 5 лет назад социально-политическом реакторе?

Но вымирают и лица биологические. Похоже, в этом году Беларусь выйдет на естественную убыль населения порядка 70 тысяч человек. Хорошая была страна. Интересный ребус для потомков. ■

